


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13 b) München 15, Pettenkoferstr. 23/I.
Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, **Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг,** Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
**Банкавае конто: Administration der weissruthenischen Zeitung „Baćkauscyna“ Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechselbank, München.**

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 7 (237) | Нядзеля 13 лютага 1955 г. | ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Сытуацыя на Усходзе завайстрылася

**На прапазыцыю Новазэляндыі заключыць за пасярэдніцтвам Рады Бясьпечнасьці перамір'е на Далёкім Усходзе, Пэкін адказаў станоўчым: не! ✶ Чырвоны Кітай, падтрымліваючы савецкую прапазыцыю, дамагаецца вываду амэрыканскіх войскаў з раёну Фармозы ✶ Пандыт Нэгру прапануе шукаць разьвязкі канфлікту на спэцыяльна скліканай міжнароднай канфэрэнцыі вонках Задзіночаных Нацыяў, а на ўзор Жэнэўскай канфэрэнцыі ў справе Індакітаю.**

Сытуацыя ў раёне Фармозы за апошні тыдзень настолькі завайстрылася, што на Захадзе навет гаворыцца аб ейным кульмінацыйным пункце. У той час, калі на водах між Фармозай і кітайскім кантынэнтам адбываецца і надалей перастрэлка бортавай артылерыі, спарадычныя і ўзаемныя бамбардаваньні, ня прыносячы ніякіх істотных зьменаў, у сфэры дыпляматычнай разьвіваецца вельмі ажыўленая дзейнасьць.

Амэрыка гэтым разам заняла цьвёрдую пазыцыю, здаючы сабе справу, што кажная ейная паважнейшая ўступка на карысьць камуністых вельмі адмоўна адаб'ецца на ейным прэсьціжы на цэлым азіяцкім прасторы. Праўда, Амэрыка ня рэагавала на захоп камуністымі 18 студзеня востраву Ікзян-Шань, што належыць да групы астравоў Тачэн, і запрапанавала нацыянальнаму кітайскаму ўраду Чан-Кай-Шэка эвакуаваць і ўсе астальныя астравы гэтае групы. Але гэта таму, што стратэгічнае значэньне гэтых астравоў для абароны Фармозы раўняецца нулю: астравы Тачэн зьяўляюцца аддаленымі ад кітайскага кантынэнту роўна 32 мілі, а ад Фармозы каля 300 міль. Гэтак сама астаецца яшчэ й да сяньня адкрытым пытаньнем, ці Амэрыка будзе бараніць блізка паложаныя ад кітайскага берагу астравы Квэмой і Матсу, якія знаходзяцца пад уладаю Чан-Кай-Шэка. Затое што датычыцца галоўнай базы Чан-Кай-Шэка, Фармозы і Пэскадорскіх астравоў, Амэрыка заявіла нядвузначна, што ў выпадку агрэсіі будзе бараніць сілай аружжа і на падмацаваньне слоў сканцэнтравала на загрожаным прасторы сільныя адзінкі ваеннага флёту і лётніцтва.

Як мы ўжо паведамлялі ў папярэднім нумары, прэзыдэнт Айзэнгаўэр у канцы студзеня зажадаў ад абедзьвюх палатаў амэрыканскага Кангрэсу паўнамоцтваў збройна інтэрвэньяваць у часе і на прасторы, калі і дзе будзе ўважаць за патрэбнае. Праўда, на аснове канстытуцыі ЗША прэзыдэнт мае права збройна інтэрвэньяваць у такім выпадку і без падобных паўнамоцтваў, бо ў заключаным у канцы мінулага году дагаворы з Чан-Кай-Шэкам Амэрыка забавязалася да збройнага выступленьня ў выпадку агрэсіі супраць Фармозы і Пэскадораў. Але ставячы пытаньне паўнамоцтваў, прэзыдэнт Айзэнгаўэр, відаць, хацеў выпрабаваць апінію законадаўчых органаў і мець іхнае канкрэтнае падтрыманьне. І абедзьве палаты Кангрэсу — Палата рэпрэзэнтантаў і Сэнат прызналі яму гэтыя паўнамоцтвы вялізарнай большыняй, бо толькі па тры галасы ў вабедзьвюх палатах былі супраць паўнамоцтваў. Такая адназгоднасьць Кангрэсу, так яго рэспубліканскай фракцыі, як і дэмакратычнай, найбольш вымоўна сьветчыць, што амэрыканская апінія наважаная выканаць свае забавязаньні, дадзеныя Чан-Кай-Шэку.

Пасьля розных дыпляматычных захадаў пытаньне канфлікту у раёне Фармозы 31 студзеня было пастаўленае на парадку дня Рады Бясьпечнасьці. Былі ўнесеныя дзьве супярэчныя прапазыцыі. Прапазыцыя першая, высунутая новазэляндзкім старшынёй Рады Бясьпечнасьці Лесьлі Мурно, датычыла «пытаньня варожых дзеяньняў на тэрыторыі пэўных астравоў перад кітайскім кантынэнтам» і дамагалася запрасіць дэлегацыю камуністычнага Кітаю на нарады Рады Бясьпечнасьці з мэтаю дасягненьня перамір'я. Гэта першы ў гісторыі выпадак, калі дзяржава заходняга блёку запрапанавала запрасіць на паседжаньне Рады Бясьпечнасьці прадстаўнікоў пэкінскага ўраду і калі Амэрыка на гэты праект згадзілася, праўда, асьветчыўшы вуснамі свайго прадстаўніка ў Задзіночаных Нацыях Кэбот Лёджа, што гэта ў нічым не зьмяняе дасюлешніх дачыненьняў Амэрыкі да пэкінскага ўраду. Другі праект быў высунуты прадстаўніком Савецкага Саюзу Собалевам у справе «амэрыканскіх агрэсыўных дзеяньняў супраць Кітайскай Народнай Рэспублікі ў раёне Фармозы і іншых астравоў Кітая». Савецкі праект дамагаецца вываду амэрыканскіх збройных сілаў з раёну Фармозы і выключэньня прадстаўніка нацыянальнага Кітая з нарадаў Рады Бясьпечнасьці ў справе зьліквідаваньня канфлікту.

Пасьля войстрых і гвалтоўных спрэчак, было пастаноўлена абодвы праекты — новазэляндзкі і савецкі паставіць на парадку дня Рады Бясьпечнасьці з тым, што савецкі праект будзе толькі тады дыскутавацца, калі будзе прынятая пастанова ў справе новазэляндзкага праекту. Пасьля гэтага былі высланыя ў Пэкін запросіны выслаць прадстаўніка камуністычнага Кітая на паседжаньне Рады Бясьпечнасьці.

Аднак на запросіны Рады Бясьпечнасьці міністар замежных справаў камуністычнага Кітая 3-га лютага адказаў станоўчым «не». У ноце чырвонага Кітаю на адрас Рады Бясьпечнасьці, між іншым, гаворыцца: **«Урад Кітайскай Народнай Рэспублікі астаецца пры пагляндзе, што толькі ў тым выпадку згодзіцца на высланьне свайго прадстаўніка для ўдзелу ў паседжаньнях Рады Бясьпечнасьці, калі мэтай гэтых паседжаньняў будзе дыскусія над праектам Савецкага Саюзу і калі будзе выкінуты з Рады Бясьпечнасьці прадстаўнік клікі Чан-Кай-Шэка, а так-жа, калі прадстаўнік Кітайскай Народнай Рэспублікі будзе прыймаць удзел у паседжаньнях ад імя Кітая. Дзеля гэтага ўрад Кітайскай Народнай Рэспублікі ня можа прыняць**

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

## Упадак Маленкава

**Падчас ломкі гэтага нумару газэты мы атрымалі сэнсацыйную вестку аб тым, што Маленкаў пакінуў займанае ім ад сьмерці Сталіна аж да апошняга часу становішча старшыні Рады Міністраў Савецкага Саюзу. Прычына дымісіі: недастатковае дасьветчаньне ў кіраваньні дзяржавай і неадпаведная сельскагаспадарская палітыка. На становішча старшыні Рады Міністраў СССР назначаны дасюлешні міністар абароны Булганін.**

**Гэтак скончылася «калектыўнае кіраўніцтва» ў Савецкім Саюзе і змаганьне за адзінаасабовую дыктатуру, якое выйграў Хрушчоў. Шырэй аб гэтым у наступным нумары.**

# У Саветах абвешчаны новы курс

### ВАЖНЫЯ ПАСТАНОВЫ СЭСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ

У чацьвер 3 лютага распачалася ў Крэмлі сэсія Вярхоўнага Савету Савецкага Саюзу. Раніцай гэтага дня адбылося паседжаньне Савету Нацыянальнасьцяў, у вабед — Савету Саюзаў, пасьля чаго распачалі супольнае паседжаньне абедзьве палаты, як Вярхоўны Савет СССР. Парадак дня гэтай сэсіі наступны: прыняцьце дзяржаўнага бюджэту на год 1955 і справаздача аб выкананьні бюджэту папярэдняга 1954 году; даклад аб замежнай палітыцы Савецкага Саюзу; зацьверджаньне пастановаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету.

Праект новага бюджэту прадставіў міністар фінансаў СССР Арсень Зьвераў. Бюджэт на абарону прадбачыць выдаткі ў вышыні 112,1 мільярдаў рублёў; гэта становіць каля 12 мільярдаў рублёў болей, чымся ў мінулым годзе. Ваенныя выдаткі выносяць такім чынам роўна 20% усяго бюджэту. У мінулым годзе на збраеньне было выдадзена 17,8% усяго бюджэту. Міністар Зьвераў асьветчыў, што павышэньне выдатку на абарону зьяўляецца неабходным, бо міжнароднае палажэньне не дае падставаў да зьніжэньня выдаткаў на ўзбраеньне. Як у Саветах заўсёды водзіцца, новы бюджэтны плян быў прыняты аднагалосна бурлівымі аклямацыямі.

Увесь дзяржаўны бюджэт Савецкага Саюзу на 1955 год прадбачыць выдаткі на 589,6 мільярдаў рублёў, роўна на 27 мільярдаў болей, чымся ў 1954 годзе. Зьвераў падаў да ведама, што ў бягучым годзе будзе заінвэстыявана ў савецкай цяжкай індустрыі 190 мільярдаў рублёў. Асаблівая ўвага будзе зьвернутая на разьвіцьцё мэталюргіі, мадэрнізацыі, нафтавай прамысловасьці, электрафікацыі, хімічнай індустрыі і машынабудаўніцтва, іншымі словамі, на тыя галіны індустрыі, якія маюць непасрэднае ваеннае значэньне.

Падчас паседжаньня Вярхоўнага Савету радыё Масква передало гаспадарска-палітычнае асьветчаньне, якое Хрушчоў, першы сакратар ЦК КПСС, зрабіў перад некалькімі днямі перад цэнтральным камітэтам партыі. У сваім асьветчаньні Хрушчоў заявіў, што ранейшы «новы курс» у галіне савецкай гаспадарскай палітыкі, які клаў галоўны націск на вытворчасьць спажывецкіх прадуктаў і тавараў шырокага ўжытку за кошт цяжкай індустрыі, зьяўляўся адхіленьнем ад партыйнай лініі і супярэчыў духу марксізму й ленінізму. Хрушчоў не назваў прозьвішчаў, аднак даў да зразуменьня, што вінаватыя за гэтыя адхіленьні ўжо прыцягнутыя да адказнасьці. Ён асьветчыў далей, што гэтыя вінаватыя належаць да такой-жа клясы «партыйных зраднікаў», да якіх належылі калісьці Бухарын і Рыкаў.

З асьветчаньня Хрушчова выплывае, што партыя будзе разглядаць далейшае разьвіцьцё цяжкай індустрыі за сваё галоўнае заданьне. Толькі на цяжкай індустрыі павінна базавацца ўсё гаспадарскае жыцьцё краіны і сельская гаспадарка. Таму — цьвердзіў Хрушчоў — зьяўляецца болей немагчымым рабіць націску на вытворчасьць спажывецкіх прадуктаў і тавараў шырокай патрэбнасьці ў той час, калі «імпэрыялістычныя дзяржавы Захаду прыгатаўляюць вайну».

Паклікаючыся на вышэй прыведзеныя заявы Хрушчова, на другі дзень паседжаньня Вярхоўны Савет «адзінадушна» адобрыў пастанову ЦК партыі аб патрэбе пяршынства цяжкай прамысловасьці і павышэньні ейных прадукцыйных тэмпаў за кошт вытворчасьці кансумпцыйных тавараў і прадуктаў спажывецкіх.

Гэтак афіцыяльна закончыўся двухгадовы «лагодны курс» савецкай палітыкі, які быў абвешчаны пасьля сьмерці Сталіна і меў на мэце павысіць жыцьцёвы стандарт згаладалага, абдзёртага і пражываючага ў прымітыўных бытавых і культурных умовах савецкага насельніцтва.

Хаця гэткі паварот савецкай палітыкі зарысоўваўся ўжо ад даўжэйшага часу, аднак цяперашняе афіцыяльнае абвешчаньне «новага курсу», а асабліва суровае асуджэньне дасюлешняга курсу, прыпісванага агульна Маленкаву, як «адхіленьня ад партыйнай лініі», супярэчнага з «духам марксізму й ленінізму», ды паданьне да ведама, што вінаватыя за гэтае адхіленьне «партыйныя зраднікі» ўжо пакараныя, мае сваю глыбокую вымову. Гэта абазначае, што Савецкі Саюз пачне збраіцца яшчэ большымі й шыбчэйшымі тэмпамі за кошт далейшага зьніжэньня жыцьцёвае ўзроўні працоўных. Гэта значыць, што Саветы расцэньваюць вельмі сур'ёзна сяньняшняе палітычнае напружаньне і ў Эўропе і на Далёкім Усходзе.

Але гэты «круты» зварот у савецкай палітыцы мае яшчэ іншы важны аспэкт.

**(Заканчэньне на 2-ой балоне)**

# Хрушчоў у ролі калянізатара Азіі

Ужо мінуў год, як камуністычныя правадыры Савецкага Саюзу стварылі грандыёзны плян, паводля якога да канца 1956 году мелі-б асвоіць шмат мільёнаў гэктараў цалінных і залежных земляў у Сярэдняй Азіі й Сібіры. Нядаўна першы сакратар камуністычнай партыі Савецкага Саюзу Мікіта Хрушчоў сказаў прамову перад камсамольцамі Масквы, у якой зь дзіўнай адкрытасьцю выказаў абгрунтаваньне эканамічнага й народна-палітычнага перавароту ў савецкай імпэрыі.

Год таму, пасьля зацьверджаньня камуністычнай партыяй Савецкага Саюзу ведамага пляну Хрушчова аб стварэньні магутных сельска-гаспадарскіх саўгасаў у Сярэдняй Азіі, камуністычная арганізацыя моладзі — камсамол меў стацца жаралом пастачаньня для піянэрскай працы на цалінных землях людзкіх рэзэрваў.

На пачатку 1954 году на заклік камсамолу й партыі некалькі тысяч моладзі выехала ў Казахстан і Сібір, галоўна зь іншанацыянальных заходніх акраінаў Савецкага Саюзу — зь Беларусі, Украіны і Прыбалтыкі. Але хутка ад іх прыйшлі першыя лісты, у якіх апісвалася няпрыкрашаная запраўднасьць. Усе абяцанкі і гарантыі, што ім даваліся ў Маскве, Ленінградзе, Кіяве або Менску, ня былі выкананыя. Колькасьць баракаў была недастатковая. Бальшыня перасеrange моладзі ў Казахстан і на Сібір мусіла ў зямлянках — без абяцаных палявых ложкаў — спаць на сене й саломе. Прывоз прадуктаў харчаваньня, якія адбываўся ад чыгуначных станцыяў, аддаленых ад месцаў пасяленьня на сотні кілямэтраў, быў вельмі нярэгулярны. Навет не хапала ў гэных пустынных раёнах вады да піцьця.

На пачатку лета 1954 году партыя пастанавіла прывесьці ўзноў у рух перасяленьне з больш-менш войстрым ціскам. У савецкай Украіне і Беларусі былі створаныя рэспубліканскія, абласныя й раённыя перасяленскія ўправы, якія пачалі перасяляць адпаведны прымусовы кантынгент ведамымі адміністрацыйнымі спосабамі да паасобных мясцовасьцяў на ўсход ад Уралу.

Савецкая прэса пачала ўзноў пісаць аб дабравольных жаданьнях перасяліцца на ўсход і аб г. зв. энтузіязьме моладзі. Ілюстрацыі ў савецкай прэсе паказвалі ўзапраўды «знамянітыя» фотоздымкі гэтага захапленьня. Можна было бачыць сумныя, перапалоханыя твары моладзі, якая пакідала эўрапэйскую частку Савецкага Саюзу. Маскоўскае радыё завяло спэцыяльныя тыднёвыя перадачы, у якіх моладзь з Казахстану і Сібіру перасылае прывітаньні сваім бацьком, прыяцелям і родзічам. Хто слухае гэтыя манатонныя галасы, у якіх часта — апрача зрэдагаваных камсамолам тэкстаў з падзякаю партыі і ўраду — гучаць таксама й засьцярогі, у якіх няма ніякіх ілюзіяў аб дабравольнасьці і захапленьні гэтай моладзі.

Сваёю прамоваю, вытрыманай у жыцьцярадасным тоне, Хрушчоў хацеў выклікаць калянізатарскі дух у моладзі эўрапэйскай часткі Савецкага Саюзу, асабліва сярод расейскай рэспублікі. Не 28, а 30 мільёнаў гэктараў у Казахстане і Сібіру павінны быць асвоеныя й абробленыя. Хрушчоў расказваў аб казачным багацьці Казахстану. Ён гаварыў аб раскошнай прыродзе на савецкім Далёкім Усходзе, у Ўладывастоку і маляўнічым Сахаліне. Але на Далёкім Усходзе мала людзей. З націскам Хрушчоў сказаў: «Мы мусім як найшыбчэй апанаваць на ўсходзе пустуючыя раёны і засяліць іх».

Хрушчоў аднача́сна выступіў у ролі экспанэнта якнайшыбчэйшага прыросту насяленьня Савецкага Саюзу. Ён навет хваліўся, што яшчэ пры Сталіне ён запрапанаваў закон аб ападаткаваньні адзінокіх і бязьдзетных сем'яў. На ягоную думку кажная савецкая сям'я павінна мець «што найменей трое дзяцей». Савецкі Саюз заўсёды патрабуе новых людзей і «калі да 200 мільёнаў дадаць яшчэ 100 мільёнаў, дык і тады яшчэ будзе мала».

Гэтым Хрушчоў падцьвердзіў тое, што прадбачылі знатакі савецкай палітыкі яшчэ на пачатку кампаніі асвойваньня цаліны. **Калянізацыя Сярэдняй Азіі і Сібіру — гэта ў першую чаргу палітычная праграма.** Эканамічны пункт гледжаньня — не зважаючы на намаганьні савецкай прапаганды — мае другараднае значэньне.

Гігантычны плян абрабленьня цаліны і залежных земляў Сярэдняй Азіі, Сібіру і Далёкага Усходу хавае ў сабе многа аспэктаў. Нельга забывацца, што ў далёкіх раёнах Казахстану, дзе Хрушчоў цяпер засноўвае ўлюбленыя «хлебныя хвабрыкі», ужо ў 1930 годзе існавала вялікая колькасьць калгасаў. Але што-ж тады сталася? Кліматычныя ўмовы, частыя засухі і пяшчаныя вятры нішчылі сельска-гаспадарскія культуры ў Казахстане. Гэта сталася прычынаю разьвязаньня калгасаў і на шырокіх нівах — як і сотні год таму — Казахі і надалей пачалі разводзіць жывёлагадоўлю. Яны качавалі з аднэй мясцовасьці ў другую. Цяпер Хрушчоў хоча падаць аргумэнты, што клімат Казахстану ня перашкаджае вырошчваць пшаніцу. Стварэньне гігантычных сельска-гаспадарскіх саўгасаў, якія — як пра гэта калісьці пісалася — прывялі да ўпадку сельскае гаспадаркі ў эўрапэйскай часьці Савецкага Саюзу, мае, у сувязі з гэтым, моцны палітычна-стратэгічны аспэкт. Ужо ў другой сусьветнай вайне даведзена, што на выпадак вайны цяжкая прамысловасьць, якая знаходзіцца за Уралам, можа дастаткова забясьпечваць вялікія арміі, але тамашняя сельская гаспадарка недастатковая. Апрача гэтага трэба-ж перасяліць з заходняй часьці Савецкага Саюзу найбольш сьхільныя да паўстаньняў элемэнты, дзе яны — падданыя пад сільны працэс русыфікацыі — аднаго дня станууца надзейным тыпам савецкага чалавека.

Наплыў масаў славянскага — расейскага, беларускага й украінскага насельніцтва павінен зьмяніць характар і структуру насельніцтва ўсходняй часьці Савецкага Саюзу. Аднаго дня ў Казахстане качаўнічыя, антыкамуністычна настроеныя Казахі будуць складаць мяншыню ў сваей краіне. Але таксама й для Сібіру новая палітыка Масквы мае вялікае значэньне. Нельга забывацца, што аселае насельніцтва Сібіру, — хаця ня мае сваей самастойнай нацыянальнай культуры, але мае пачуцьцё сваей апрычонасьці. Пачуцьцё вялікае калёніі, якую пабудавала Масква, асталося да сяньняшняга дня ў псыхіцы насельніцтва Сібіру. Аб гэтым ёсьць вельмі шмат лістоў ваеннапалонных, што падчас другой сусьветнай вайны былі ў Сібіры. Прыплыў калянізатараў з заходняй Расеі павінен унесьці зьмены.

Найгалаўнейшае, як відаць зь лёзунгу Хрушчова, вяжыцца зь кітайска-савецкімі дачыненьнямі. Калі Чу-Эн-Ляй у мінулым годзе выступіў зь лёзунгам «Азія для азіятаў», крэмлёўскае кіраўніцтва сталася чуйным. Вялікая часьць Савецкага Саюзу ляжыць глыбака ў Азіі. Гэтыя раёны наагул мала заселеныя і маюць — хоць і ня вельмі шмат — усё-ж некалькі груп азіяцкіх народаў, сярод якіх Японцы ў Манджурыі інсьпіравалі паназіяцкія тэндэнцыі. Кітай мае штогод 12 мільёнаў прыросту насельніцтва ў той час, як Савецкі Саюз мае прыросту толькі 2 мільёны ў год. Адсюль вымаганьне Хрушчова дадатковых 100 мільёнаў савецкіх грамадзян. Адсюль і лёзунг «Мы мусім засяліць Усход!».

(Паводля газэты «Українські Вісті» за 23. 1. 55)

# Гаворыць радыё «Вызваленьне»

—Ніхто не запярэчыць асноўнай думцы артыкулу Янкі З. «Аб патрэбе дакумэнтацыі», зьмешчаным у папярэднім нумары «Бацькаўшчыны». Гэтая думка — гэта патрэба пакідаць друкаваны сьлед за сабой аб усім зробленым — для будучыні. Аўтару гэтых радкоў хацелася-б зьвярнуць увагу на іншы аспэкт гэтае праблемы — на патрэбу інфармацыі для цяпершчыны. Гэтая праблема часта ня менш, а часам навет і больш важная за першую, яна ня раз паважна ўплывае на суадносіны, працу ды кірунак далейшае дзейнасьці грамадзтва. Навет у самых далікатных справах непаінфармаванасьць часта шкодзіць больш, чымся прыносіць карысьці. Колькі непатрэбных канфліктаў і непаразуменьняў можна было ўхіліць і ў нас, інфармуючы ў час грамадзтва аб зробленых кроках, дазнаных няўдачах ці дасягнутых удачах? Не гаворачы ўжо аб сьведамым перакручваньні фактаў паводля атрыманых чутак, непаінфармаванасьць дае ворагам ды дамарослым дэмагогам магчымасьць дэзарыентаваньня. Ужо такая людзкая натура, што дрэннаму вераць хутчэй, чымся добраму, што няма нічога лягчэйшага, як выклікаць недавер. Адваёўваць-жа загубленыя пазыцыі справа цяжкая.

Выходзячы з гэтых меркаваньняў, ужо даўно пасьпеў час, каб паінфармаваць дакладней нашае грамадзтва аб аднэй з нашых галоўнейшых пазыцыяў, здабытых на эміграцыі — аб нашым голасе ў радыі. У гэтым выпадку маем наўвеце радыё «Вызваленьне».

«Гаворыць радыё «Вызваленьне»! — гэтым пачынаецца й канчаецца кажная беларуская перадача гэтага радыя. Але што знаходзіцца між гэтым пачаткам і канцом? Толькі вузкое кола, што зводзіцца бадай да блізкіх і далёкіх супрацоўнікаў аддзелу, мае магчымасьць знаёміцца больш-менш сыстэматычна ізь зьместам перадачаў. Няма дзіва, што гэтае нездаровае палажэньне не замарудзіла вызваць розныя гавораныя ды пісаныя камэнтары. Асабліва-ж лёгкай нажывай здалося гэта прыгадваным ужо дамарослым дэмагогам — элемэнту, у якога разбуральніцкая дзейнасьць ужо ў крыві. І вось **гэты элемэнт** стараецца «разьнесьці» радыё «Вызваленьне», на колькі пазваляе ім на гэта іхняя, зрэшты даволі абмежаваная, фантазія. Ня будзем тут пералічваць усіх тых «ворганчыкаў», што атакуюць працу беларускага аддзелу. Тыя, што ня могуць здабыцца на больш, бяруцца за працаўнікоў, абкідваючы іх усімі магчымымі мянушкамі. Іншыя стараюцца капаць глыбей, шукаючы ідэялягічных дзюрак. Возьмем хоць-бы за прыклад «Беларускі Голас» — гэты хмараўскі шэдэўр грубой, неабчэсанай дэмагогіі. Вось-жа ў гэтай рэдкай птушцы за лістапад мінулага году знаходзім камэнтаваныя выняткі з украінскай прэсы, што атакуе ўкраінскі аддзел. Галоўная тэза гэта тое, што ў радыі «Вызваленьне» Украінцам забараняецца гаварыць аб незалежнасьці. Пры гэтым зацемка — абапертая толькі на хмараўскім аўтарытэце — што «... заўвагі гэтыя можна ўпаўні застасаваць і да беларускага аддзелу гэтае станцыі...»

Бараніць тут Украінцаў мы ня зьбіраемся: на гэта яны маюць дастаткова фактаў, людзей і магчымасьцяў. Ня маем таксама намеру разводзіць красамоўную апалёгію ў адносінах да беларускага аддзелу. Возьмем лепш наўпапад некалькі праграмаў зь бягучага месяца ды перагледзім іх: хай факты гавораць самі за сябе. Пастараемся ня мучыць чытача шматлікімі вынятками — задаволімся толькі разьбіцьцём цьверджаньня таго сіпаватага «голасу» што да прапагаваньня незалежнасьці.

Вось праграма з 2-га студзеня. Адна з гутарак з цыклю «Тайная свабода» аб Язэпу Пушчы. Цэлая гутарка, як і творчасьць Пушчы, прасякнутая духам патрыятызму й незалежніцтва. Вырвем адзін сказ: «У творы адбіліся глыбокія настроі незадаваленьня лёсам краіны пад чужым панаваньнем» (цытуецца патрыятычны верш). Кажная гутарка з гэтага цыклю канчаецца словамі: «Сумленныя мастакі, песьняры Беларусі, супраціўляюцца камуністычнай дыктатуры... У гэтым парука вызваленьня й будучага росквіту нашае любае Бацькаўшчыны».

Праграма з 16-га студзеня. Гутарка — «Адна зь першых ахвяраў бальшавізму», прысьвечаная пісьменьніку Фабіяну Шантыру, ягонай творчасьці ды трагічнай сьмерці: «... Матывы змаганьня на Беларусі, нацыянальна прыгнечанай, гучэлі заклікам да змаганьня... У 1917 годзе ў Слуцку выходзіць Шантырава брашура «Патрэба нацыянальнага жыцьця для Беларусаў і самавызначэньне народаў», у якой ён пісаў: „... працаваць над адбудовай вольнай бацькаўшчыны Беларусі... — якая гэта вялікая доля для нас!” Вось гэтым высокім перакананьнем і кіраваўся Шантыр, улучыўшыся ў змаганьне за незалежную Беларусь».

19-га студзеня — гутарка «Чаму была абвешчаная БССР»: «Нашая нацыянальная рэвалюцыя, якая ў 1918 годзе праклямавала незалежную Беларускую Народную Рэспубліку на ўсім этнаграфічным абшары, прымусіла бальшавікоў ня толькі загаварыць, але й прызнаць Беларусь... Жадаючы надаць БССР падабенства **нацыянальнага вобліку,** што было гэтак патрэбна для супрацьстаўленьня БНР, бальшавікі абралі на месца абвешчаньня свае рэспублікі старадаўны горад Крывічоў — Смаленск, улучылі ў ейны склад блізу ўсе беларускія этнаграфічныя землі ды шырака рэклямавалі незалежнасьць... Такім чынам, БССР паўстала, як адказ збоку бальшавікоў на БНР. Ня было-б БНР — не зьявілася-б і БССР... Гэтак выглядае праўда пра абвешчаньне БССР, зробленае на загад чырвонага Крамля і наўсуперак імкненьням народу да запраўднай нацыянальнай дзяржаўнасьці ў форме Беларускай Народнай Рэспублікі».

Урэшце, таму, што грамацеі «Голасу» чытаюць, як відаць, толькі тую ўкраінскую прэсу, што лае радыё «Вызваленьне», прыводзім вынятак з зацемкі, напісанай кіраўнікам **беларускага** аддзелу для **беларускай** праграмы, ды прысьвечанай угодкам незалежнасьці Ўкраіны: «Як кажны год, 22-га студзеня, Украінцы па ўсім вольным сьвеце сьвяткавалі сваё нацыянальнае сьвята — абвешчаньне незалежнасьці Ўкраінскай Народнай Рэспублікі... Мы, Беларусі, знаходзімся ў аналягічнай сытуацыі з братамі Ўкраінцамі. І наша Беларуская Народная Рэспубліка заменена ў Савецкую. Мы маем такі самы ідэял і таго самага камуністычнага ворага, што здушыў яго. Таму пры ўкраінскіх нацыянальных сьвяткаваньнях сэрцы нашы б'юцца ў вадзін такт з сэрцамі братоў Украінцаў».

Гэтага хіба стае, каб паказаць, якую працу ды якую лінію праводзіць беларускі аддзел. Паказаць ня так тым жалюгодным шукачом дзюрак — але ўсяму беларускаму грамадзтву. Бо галасы тых шукачоў, гэта толькі ледзь чутнае пішчэньне ў параўнаньні з куды больш багатай лаянкай ды вынаходлівасьцяй, рэакцыйнай камуністычнае прэсы, як «Ді Тэгліхэ Рундшаў», «Заря Востока» і навет «Известия». Нашым розным «галаском» можа будзе пацехай, што яны не адны ў сваёй акцыі... Ці можа ўспомніць яшчэ пра забойствы працаўнікоў нацыянальных рэдакцыяў?

Мэтай гэтага артыкулу зьяўляецца паінфармаваньне нашага грамадзтва, а не пераклічка зь нявартымі гэтага гонару. Таму ня маем права прамаўчаць і некаторых адмоўных мамэнтаў, ці мо лепш недахопаў у працы нацыянальных рэдакцыяў. Аўтар меў і мае нагоду большменш зблізка прыглядацца гэтай працы ды ў меру магчымасьці прааналізаваць яе.

Адзін з гэткіх недахопаў, гэта адсутнасьць сыстэматычнага інфармаваньня сваіх суродзічаў на эміграцыі. Пакульшто, нажаль, адзіным пасярэднікам можа быць існуючая прэса — або можа адмысловы бюлетэнь аддзелу? Гэты недахоп ня толькі пажадана, але й неабходна так ці інакш запоўніць.

Другі вельмі паважны мінус, гэта абмежаваны засяг перадачаў. Яны абыймаюць толькі Беларусь — ды й то нявядома, ці чутны яны на ўсім этнаграфічным прасторы, бо як даведваемся, за аснову бярэцца толькі БССР. Расейскія-ж перадачы абыймаюць увесь Савецкі Саюз. А колькі-ж нашых суродзічаў раськідана па ягонай тэрыторыі, аж да далёкай Калымы? Факт перадаваньня на ўсю тэрыторыю СССР непараўнальна ўзьняўбы эфэктоўнасьць беларускіх перадачаў.

Іншы мамэнт: на тэрыторыі Ўсходняе Нямеччыны знаходзяцца шматлікія аддзелы савецкіх акупацыйных войскаў. У іх — безьліч Беларусаў. Чаму-ж на гэтую тэрыторыю перадаецца толькі парасейску? З прапагандовага гледзішча, гэта вельмі паважны недахоп. Урэшце, важным зьяўляецца і перадаваньне на Захад. Гэткім чынам, перадачы былі-б выстаўленыя на крытыку грамадзтва, што шмат памагло-б у іх палепшваньні. Па другое, у гэткіх краінах, як Канада, ЗША ці Аргентына жывуць тысячы нашых суродзічаў - старых эмігрантаў, што скамунізаваліся пад уплывам камуністычнае прапаганды. Гэта-ж патэнцыяльныя памагатыя Савецкага Саюзу. Ці гэтаму ня трэба супрацьдзеіць?

**(Заканчэньне на 4-ай балоне)**

# У паняволенай Беларусі

**СКАРГІ МЕНСКАЕ ПАРТКАНФЭРЭНЦЫІ**

25—26 сьнежаня 54 г. у Акруговым Доме ахвіцэраў у Менску адбылася XIV-ая Менская гарадзкая партыйная канфэрэнцыя. Пераглядаючы справазданьне з канфэрэнцыі (гл. «Зьвязда» з 28. XII. 54), мы даведваемся, між іншага, што:

«Трактарны завод, ня гледзячы на павялічэньне выпуску машын супраць мінулага году, ня выканаў пляну выпуску трактароў.

«На радзе прадпрыемстваў не вядзецца належная барацьба за зьніжэньне сабекошту выпусканай прадукцыі. Нізкая яшчэ і якасьць вырабаў.

«На чыгуначным вузьле нізкая працоўная дысцыпліна, частыя прастоі вагонаў.

«Ажыцьцяўляючы рашэньні партыі і ўраду па крутому ўздыму сельскай гаспадаркі, гарком, райкомы і пярвічныя партарганізацыі гораду накіравалі на работу ў вёску 1.500 чалавек на пасады дырэктараў МТС, галоўных інжынераў, загадчыкаў майстэрняў, мэханікаў, аграномаў, старшыняў калгасаў, на партыйную й савецкую работу.

«Плян будаўнічых работ за 11 месяцаў 54 году выкананы на 100,1%.

**Аднак:**

«У пагоні за вонкавым эфэктам архітэктары дапускаюць вялікае марнатраўства ў выдаткаваньні дзяржаўных сродкаў. Многія архітэктары лічаць галоўным афармленьне знадворнага выгляду будынкаў і мала дбаюць пра выгады жыхароў. Плян капітальнага і бягучага рамонту жыльля выкананы толькі на 79%, якасьць рамонту нізкая.

«У гандлёвай сетцы ня ліквідаваны факты растрат, абмерваньня, абважваньня й аблічваньня пакупнікоў, продажу тавараў па звышаных цэнах. Тавары, якія паступаюць у магазыны, часам нізкай якасьці. У горадзе не вядзецца належнай барацьбы із спэкуляцыяй, ніхто ня сочыць за работай рынкаў.

«Гарком і райкомы партыі слаба кіруюць прыёмам у партыю і работай з кандыдатамі ў члены КПСС. У партыйных арганізацыях гораду налічваецца 279 кандыдатаў з пратэрмінаваным кандыдацкім стажам... На прамысловых прадпрыемствах, транспарце й будоўлях гораду партыйная праслойка рабочых зусім нязначная. У партарганізацыях мелі месца выпадкі прыёму ў партыю недастойных людзей.

«У многіх партыйных арганізацыях гораду слаба разгортваецца крытыка й самакрытыка. Няправільныя адносіны да крытыкі ў радзе месц часта праяўляюцца ў нерэагаваньні на скаргі працоўных.

«Каб трапіць у горад, работнік ускраіны павінен доўгі час чакаць аўтабусу, трамваі ходзяць рэдка.

«Цяганіна й бюракратызм маюць месца ў гаркоме пры разглядзе заяў і скаргаў працоўных. Многія скаргі месяцамі ляжаць бяз руху.»

# У Саветах абвешчаны новы курс

**(Заканчэньне зь 1-ай балоны)**

Як ведама, пасьля ліквідацыі аднаго з найбольш небясьпечных канкурэнтаў на крэмлёўскім алімпе, Бэрыі, што раз выразьней пачало зарысоўвацца змаганьне між двума галоўнымі канкурэнтамі — Маленкавам і Хрушчовам.

Маленкаў, як ведама, рэпрэзэнтаваў больш лагодную палітычную лінію — у нутраным жыцьці краіны ён быў прыхільнікам падняцьця жыцьцёвага стандарту насельніцтва і павышэньня выпуску кансумпцыйных тавараў і спажывецкіх прадуктаў за кошт звальненьня тэмпаў разьвіцьця цяжкой прамысловасьці. Хрушчоў, наадварот, быў фанатычным прадаўжальнікам і абаронькам Сталінскае лініі «цяжкой рукі», далейшага разьвіцьця цяжкай прамысловасьці і збраеньняў. Аналягічныя разыходжаньні выступілі між імі і ў дачыненьні да вонкавага сьвету. Маленкаўскай элястычнай і навонкі лагоднай лініі Хрушчоў проціўстаўляў становуча агрэсыўную палітыку пэрыяду Сталіна.

Таму апошняе асуджаньне курсу Маленкава, як «адхіленьня ад партыйнай лініі», трэба ўважаць за адзін з далейшых важных этапаў у змаганьні двух галоўных прэтэндэнтаў да ролі «непамыльнага» «вождя», за этап, у якім перамога асталася на баку Хрушчова. Усё паказвае на тое, што ў Савецкім Саюзе хутка могуць разыйграцца выпадкі першараднае вагі, якія, паводля свайго значэньня, могуць адсунуць у цень факт упадку Бэрыі.

**(-іч)**

**Юрка Віцьбіч**

# Плыве з-пад Сьвятое Гары Неман

**(Працяг)**

Мястэчка Любань над ракой Арэсай зьяўляецца водгукам вялікага гораду Любашаны, падобна таму, як сяло Кукарава на Ігуменшчыне ёсьць сьлед вялікага гораду з тым-жа назовам. Ад таго гораду засталося мноства паганскіх і хрысьціянскіх магільнікаў, на якіх вялізарныя каменныя крыжы ад часу і вагі напалову праваліліся ў зямлю. І паміж магільнікамі ляжыць пры дарозе камень Пястун. Ён невялікі, але ў народзе існуе паданьне, што ўсе тыя, хто паспрабавалі патурбаваць ягоны супакой, адразу гублялі зрок. На Піншчыне, на вузкай паўвысьпе возера Нобель, зь якога пачынаецца рака Струмень, можна заўважыць сьляды гораду Міндоўга Нобель і дагэтуль існуе на беразе мястэчка з аднайменным назовам.

Паблізу ад цяперашняга Рагачова былі ў старасьвеччыну аж тры вялікія гарады — Лучын, Хлепен і Брагін. Першы дайшоў да нас, як сяло Лучына, у ваколічнасьці якога знаходзіцца больш за 100 курганоў і 2 гарадзішчы. Хлепен ня менш чым раней вядомы, як Жлобін. Брагін прыгадваецца яшчэ ў 1189 г., калі кіеўскі князь Рурык на вясельлі свайго дзесяцігадовага сына з васьмігадовай Верхаславай, дачкой Суздальскага князя Ўсеслава, даў маладым «дары многи и горад Брагин». Пазьней у 17 стаг. тут у палацы князёў Вішнявецкіх упяршыню абвесьціў аб сваім царскім паходжаньні Зьмітры Самазванец. У часе казацкіх войнаў Брагін дарэшты зьнішчылі Палякі, помсьцячыся за тое, што ён падтрымаў Нябабу, Напаліча і Хвэську. Гэтае зьнішчэньне, як і наступнае адраджэньне, знайшлі адбітак у творы славутага ўзвышэнца Ўладзімера Дубоўкі:

Няма дзяцюкоў тых, дзяўчыны няма,  
а вырас на беразе Брагін.  
Навокал мястэчка — істужкай рака,  
назвалі Брагінкаю людзі,  
ня кіне яна на паноў наракаць  
да помсты і звала і будзе.

Калісьці ў Віцебску на Сёмуху каля бабінцу Чорнае Тройцы, што на Пескавацiку, давялося мне пачуць сьляпога старцалерніка. Адсунуўшы назад торбу, перабіраючы пальцамі рукі клявішы і круцячы правай корбу, ён у такх лерным гукам пяяў:

Падымаліcь чорны хмары,  
Неба пакрывалі.

І пяяў ён ня голасна, і самы голас, падбіты старасьцю, дрыжэў, але гэтулькі пачуцьця ўкладаў музыка ў сваю песьню, што здавалася ягоныя нявідушчыя вочы бачаць і хмары, і полымя і даўную зацятую бітву. І можа ні адзін наш музычны інструмант гэтак не адпавядаў ягонай песьні, як задуменная, засмучоная лера.

Прыхадзілі злы Татары,  
Пад Крычавам сталі

Даўно ўжо парасла пустазельлем магіла таго дзеда. Ніхто ня пераняў ягоную забароненую леру. Аднак усёроўна досыць толькі прыгадаць сваю краіну, як загучыць у душы бясконца, зачэпляная ў ёй калісьці лернікам, струна:

Запалілі стары Крычаў, —  
Канцы запалілі...

А ён запраўды стары. Паводля навуковых прыпушчэньняў і народных паданьняў, Крычаў заснавалі яшчэ Крывічы — людзі аднае крыві, надаўшы яму сваё імя Крывічаў. Зь цягам часу назоў гэты зьпачыўся, але як ужо зазначана ў дачыненьні да гораду Невялю і рэчкі Емянкі ды вёскі Стрыжва і возера Стрэжаў, менш за ўсё падлягаюць зьпачаньню назовы рэкаў і вазёраў. Таму рэчка з двумя назовамі — Крычаўка або Крывічанка, што, працякаючы праз Крычаў, у ім далучаецца да Сожу, пацьвярджае верагоднасьць і навуковых прыпушчэньняў і народных паданьняў. А ў іншым паданьні, што сьцьвярджае, нібы горад атрымаў свой назоў ад крыку Татараў, можа акурат адбіваецца той час, калі ён згубіў сваё ранейшае імя. Аб старасьвеччыне гораду сьветчыць яшчэ і царква ў імя прарока Ільлі, пабудаваная на месцы мольбішча Пяруну, і падзямельныя ходы-лёхі мураваныя з трывалае цэглы, якія ідуць ад колішняга замку пад Сож. Аб Крывічох, акрамя Крычава, нагадвае таксама вялікае сяло Крывічы, што шырака разьляглося ў Наваградчыне паміж лукавінамі Нёману. І нарэшце некаторыя гісторыкі даводзяць, што другі вядомы назоў Ніжняга замку ў Вільні — Крывы, які не адпавядае ні тапаграфіі мясцовасьці, ні пляну ягонае пабудовы, зьяўляецца зьпачаньнем першапачаткавага назову — Крывіцкі.

Аб Дрыгвічох, частка якіх зь невядомае прычыны адкалолася ад свайго племя і, трапіўшы на Балканы, спакінула свой сьлед у назове ракі Драгавіцы, сьветчыць на Беларусі стары Драгічын. Цяпер гэта маленькі горад над Бугам, а калісьці зьяўляўся заходняй сталіцай Дрыгвічоў — людзей, што пасяліліся на балотах, на дрыгвах. Тут у 1238 г. князь Даніла перамог крыжакоў, тут у 1274 г. пасьля зацятага змаганьня ўсё зьнішчыў і спаліў князь Тройдэн. І тут цяпер ціха. Навет рэшткаў не захавалася ад старадаўняе тутэйшае сьвятыні — царквы Божае Маці. Толькі сіні Буг, падмываючы штогод усё больш і больш Замкавую Гару, якая на 45 сажняў уздымаецца над ім, агаляе ейныя лёхі.

Яшчэ «Повесть временных лет» зазначае, што «два браты Радим, а другой Вятко... и пришедша седоста Радим на Сожу». Ня дарма таму глыбокі Сож мянуецца ў тагачасных летапісах, як «Путь на Радимиче». Аднак калі ўсе іншыя плямёны стварылі свае собскія княствы, дык колькасна нешматлікія, у параўнаньні зь імі, Радзімічы — людзі родныя паміж сабой — свае дзяржавы не займелі. «Пачатны летапіс» сьцьвярджае, што Алег у 885 г. прымусіў іх плаціць, акрамя Хазараў, даніну і яму. У 984 г. іх перамог на берагох рэчкі Пясчанкі, а ў той час ракі «Пішчаны» кіеўскі ваявода Воўчы Хвост. Сяньня толькі маленькае мястэчка Радомля зь вялізным старажытным гарадзішчам сьветчыць сваім назовам аб Радзімічах і, паводля навуковых прыпушчэньняў, зьяўлялася іхняй сталіцай. Аднак беларускі народ у сваім фальклёры перахаваў шмат паданьняў аб сваіх продках — Радзімічах.

Наш навуковец Аркадзь Смоліч першым ужыў у сваёй «Геаграфіі Беларусі» назоў — Радань — у дачыненьні да тае часткі Беларусі, дзе жылі калісьці Радзімічы. Падмурак гэтаму назову паклаў другі наш выдатны навуковец Аўдакім Раманаў, які для сваіх мастацкіх твораў навет абраў адмысловы псэўдонім — Радзіміч. Пазьней гэты назоў пра Зузэмюль і Пачопка, якія для тых, хто зь імі сустракаўся ці чытаў іхнія творы, зусім не зьяўляліся напоўанэкдатычнымі асобамі, а добрымі патрыётамі. І хочацца думаць, што гэты новы геаграфічны назоў — Радань — у дачыненьні да тае часткі сучаснае этнаграфічнае Беларусі, дзе калісьці змагалася і працавала жменька родных паміж сабой людзей, станецца нарэшце агульнапашыраным і дарагім для ўсіх Беларусаў.

Калі думаеш пра Ноўгарад-Севярскі, які чамусьці на сучасных мапах апынуўся паза межамі этнаграфічнае Беларусі дык адразу прыгадваецца з «Пачатнага Летапісу» — «Сели на Дзесне и па Семи и па Суле и назвалися Севера». Гэта тыя Севяране, пра якіх «Повесть временных лет» зазначае: «Радимичи, Вятичи и Север один обычай имяхуть». Потым пад сталым ціскам з боку Полаўцаў і Татараў адбылося некалькі масавых перасяленьняў Севяранаў у зямлю Дрыгвічоў. Пазьней, на бадай што бязьлюдзьдзе, прыйшлі тагачасныя Ўкраінцы. Аднак і цяпер толькі ў самым Ноўгарадзе-Севярскім гавораць паўкраінску, а ў ягонай ваколічнасьці скрозь ужываюць тамтэйшы дыялект нашае мовы, да стварэньня якое прылучыліся калісьці і нашыя продкі — Севяране. Ад Севяранаў таксама паходзяць пашыраныя па ўсёй Беларусі селішчы Сяўрукі, зь якіх найбольшае — мястэчка Сяўрук ляжыць на паўдня ад Гомелю.

Тысячагадовы Тураў па адных дадзеных сталіца Драўлянаў — людзей, што жылі паміж дрэваў, у лясох ды пушчах, па другіх Тураў заснаваў, паводля летапісца Нестара, вараг Тур, які зьявіўся сюды адначасна зь зьяўленьням у Полацку варага Рагвалода. Перш за ўсё трэба зазначыць, што вараскае паходжаньне полацкага Рагвалода сяньня самым грунтоўным чынам аспрэчваецца. Ня менш спрэчна і вараскае паходжань-

# Сытуацыя на Усходзе завайстрылася

(Заканчэньне зь 1-ай балоны)

**запросінаў Рады Бясьпечнасьці і выслаць свайго прадстаўніка для дыскусіі над новазэляндзкім праектам».**

Становучая адмова Чу-Эн-Ляя і немагчымыя да прыняцьця ягоныя дамаганьні выклікалі на Захадзе глыбокае занепакаеньне і разьвеілі надзею на хуткую ліквідацыю канфлікту шляхам дыпляматычных перагавораў. У колах удзельнікаў канфэрэнцыі прэм'ераў брытанскага камэнвэльту, што адбываецца цяпер у Лёндане, яшчэ існуе надзея на магчымасьць дыпляматычнага залагоджаньня канфлікту. Гэтая надзея базуецца на магчымасьці скліканьня вонках Задзіночаных Нацыяў міжнароднай канфэрэнцыі ў справе Фармозы з удзелам чырвонага Кітая. Як сталася ведамым падобны праект зрабіў амэрыканскаму паслу ў Лёндане індыйскі прэм'ер Пандыт Нэгру. Аднак у Вашынгтоне моцна сумляваюцца, ці Амэрыка на гэты праект згодзіцца. У сувязі з гэтым у Вашынгтоне падчыркваецца, што Масква і Пэкін выразна імкнуцца да скліканьня такой канфэрэнцыі, на якой прабавалі-б за ўзорам Жэнэвы паставіць на парадку дня ўсе азіяцкія праблемы.

Адначасна трэба падчыркнуць, што дамаганьне Пэкіну выключыць Чан-Кай-Шэка ад удзелу ў нарадах у справе Фармозы не стварае прыязнай атмасфэры для якіх-небудзь гутарак з камуністычным Кітаем. Да гэтага спрычыняюцца і гвалтоўныя абвінавачваньні чырвоным Кітаем Амэрыкі.

Задзіночаныя Штаты Амэрыкі з аднаго боку, а Кітайская Народная Рэспубліка — з другога зрабілі далёка сягаючыя заявы і прадпрынялі дыпляматычныя крокі, якія выключаюць узаемны кампраміс. Такі кампраміс мог-бы быць дасягнуты толькі шляхам сур'ёзных уступак адным з праціўных бакоў. Але такія ўступкі пацягнулі-б за сабой страту аўтарытэту на гэтым прасторы для тае дзяржавы, якая на гэтыя ўступкі пайшла-б. Вось чаму сытуацыя на толькі заблыталася, што сяньня цяжка прадбачыць ейнае разьвязаньне. Не падлягае сумлеву, што эўрапэйскія саюзьнікі будуць рабіць націск на Амэрыку, каб іменна яна гэтыя ўступкі зрабіла. Але гэта было-б раўназначным з наступнай, пасьля Індакітаю, камуністычнай перамогай над Захадам, калі ня браць пад увагу ўжо дасягнутай камуністычнай маральнай перамогі ў форме беспакаральнага захапленьня востраву Ікзян-Шань і згоды Амэрыкі на адступленьне ім усіх астравоў групы Тачэн. Пэкін аднак гэтым не здаволіўся і зусім ня выказвае схільнасьці задаволіцца ў выпадку адступленьня яму прыбярэжных астравоў Квэмой і Матсу.

Шырока ведамы амэрыканскі палітычны камэнтатар Язэп Альзоп інфармуе з Гонг-Конгу, што Пэкін нядаўна запэўніў прэм'ера Бурмы, што камуністычны Кітай зьяўляецца станоўча наважаны «вызваліць» Фармозу яшчэ ў 1955 годзе. А як паведамляе з Фармозы карэспандэнт «Нью Ёрк Гэральд Трыбюн», кітайскія камуністыя прадаўжаюць інтэнсыўныя прыгатаваньні да інвазіі астравоў Тачэн і, ня гледзячы на канцэнтрацыю 7-га амэрыканскага ваеннага флёту, разьвіваюць ажыўленую актыўнасьць.

Гэтак прадстаўляецца сытуацыя сяньня. Існуюць усе дадзеныя спадзявацца, што эвэнтуальнае адпружаньне наступіць ня гэтак хутка. Выбух адкрытай вайны між Амэрыкай і чырвоным Кітаем зьяўляецца, аднак, вельмі мала праўдападобны, бо адзін Кітай без адкрытага ўмяшаньня Савецкага Саюзу ня можа і думаць, каб справіцца навет з тымі амэрыканскімі морскімі і лётніцкімі сіламі, якія ўжо сяньня сканцэнтраваныя ў раёне Фармозы. Таксама не зьяўляецца праўдападобным, каб Савецкі Саюз у сучасны мамэнт адважыўся на ваенную авантуру.

Таму трэба спадзявацца, што канфлікт, хаця і можа яшчэ трываць даўжэйшы час, але ўсё-ж такі нейкім спосабам будзе палагоджаны. Астаецца тады адно важнае пытаньне: чыім коштам? Адказ на яго павінна прынесьці недалёкая будучыня.

**Язэп Каранеўскі**

# Гаворыць радые „Вызваленьне"

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

Справа ня меншай важнасьці: беларускія праграмы трываюць 15 часін ды паўтараюцца 12 разоў на пару. Навет зь існуючымі сіламі можна было-б справіцца з 30-часіннымі перадачамі; іхняя-ж прапагандовая вартасьць ды эфэктоўнасьць узрасла-б непамерна.

Урэшце, ня можна прамаўчаць і ідэялягічных абмежаваньняў; якія накідваюцца (трэба сказаць — вельмі ветліва) прадстаўнікамі Амэрыканскага Камітэту.

Падыйшоўшы крытычна да прыведзеных вышэй цытатаў, чытач заўважыць, што прапагаваньне нашых ідэялаў адбываецца толькі пасярэднім, вакольным шляхам. Чытач ня знойдзе ў гэных цытатах гэткага, напрыклад, сказу: «Беларускі народ не пакідае змаганьня за адраджэньне свае запраўды незалежнае дзяржавы, зьліквідаванае бальшавікамі». Хіба ня трэба паказваць, на колькі выключэньне пазытыўных мамэнтаў у прапагандзе зьніжае ейную вартасьць і сілу. Толькі бальшавікі і, зразумела, адарваныя ад сучаснасьці расейскія рамантыкі-імпэрыялістыя могуць цешыцца з гэтага «непрадрашэнства». Народам трэба паказваць, што іхныя прыродныя імкненьні разумеюцца й падтрымоўваюцца. Дасюлешнюю-ж прапаганду можна параўняць да на палавіну спараліжаванага дзіцяці.

Матарыяльная залежнасьць у праводжаньні палітычнае працы ня была прыемнай ніколі і нікому. Яна зьвязвае працаўнікоў ды паніжае вартасьць іхнае працы. Абставіны вымагаюць працаваць якраз у гэткіх умовах. Ня выкарыстоўваць даваных магчымасьцяў было-.. нацыянальнага гледзішча праступ.. Праца гэтая вымагае вялікае цярп.. васьці, такту і — непахіснага ідэялізму Вось чаму на платных позыцыях павінны стаяць людзі, для якіх плата — **гэта** толькі сяродак да праводжаньня нацыя..льнае **дзейнасьці, а ня ўла**джаньня асабістае будучыні. Інакш чалавек робіцца простым урадаўцам-карыерыстым, міжвольна топчучы тое, што было для яго сьвятым яшчэ ўчора... Але гэтай пякучай праблемы прысьвецім асобны артыкул у вадным з наступных нумароў «Бацькаўшчыны».

Трэба аддаць належнае сябром беларускай рэдакцыі радыя, якія салідарна абстойваюць нашыя пазыцыі. Пажадаем ім, каб яны былі яшчэ больш настойлівымі й сьмелымі ў сваіх дамаганьнях зьліквідаваць пералічаныя недахопы, заўсёды ставячы нацыянальнае дабро вышэй за сваё асабістае. Працу іхную ўзважыць і ацэніць будучыня.

Карыстаючы з прыезду старшыні Амэрыканскага Камітэту, нашы дзейнікі напэўна будуць дамагацца зьліквідаваньня пералічаных недахопаў. Ад усяго сэрца жадаем ім удачы. Але ўжо й цяпер, узважваючы існуючыя магчымасьці ды праробленую працу беларускім аддзелам, наша грамадзтва яму скажа: Шчасьці Божа!

**Ул. Немановіч**

# Яшчэ адзін „навуковы" фальсыфікат

(Заканчэньне з 3-яй балоны)

**вучэньня»** ды прызначаны для «студэнцтва і настаўніцтва» — хіба-ж у першую чаргу беларускага? Гэткім чынам, беларускага чытача й выкладчыка «гісторыі літаратуры» сілай абставінаў змушаюць карыстацца расейскай мовай, і няма ведама, калі беларускае выданьне кніжкі прыйдзе на выручку з гэткага становішча.

Маскаль бяз русыфікацыі, як чорт без балота.

2) Беларуская літаратурная творчасьць савецкага пэрыяду — гэта ня творчасьць просавецкіх (ці падагнаных пад такіх) пісьменьнікаў. На аснове дазнаньня з савецкімі «гісторыямі», яшчэ ня бачыўшы кніжкі, можна з пэўнасьцяй сьцьвердзіць, што ў «нарысе» і словам не спамянуцца дзесяткі прозьвішчаў і твораў выдатных беларускіх савецкіх пісьменьнікаў, замораных тымі-ж цемрашаламі, паводля чыіх «указаньняў» сфабрыкована цяпер новы «очерк».

Дзеля гэтага толькі зь вялізарнай нацяжкай можна было-б назваць гэты «твор» нарысам **просавецкай** літаратуры.

3) Пры ўкладаньні «нарысу», як піцьдаць, не абыйшлося без «ратушоўкі» і тых пісьменьнікаў, якія заслужылі на «гонар» папасьці на балоны «манаграфічных характарыстык». Шмат хто зь іх, ад Купалы да Танка, папаўся туды ацярэблены із сваіх папярэдніх твораў або з творамі пакалечанымі няўміручай бальшавіцкай цэнзурай. Апэрацыя гэтая ня мінула нікога сваім вастрыём, як ня мінула й нябожчыка Бядулю ў пасьмяротным выданьні чатырохтомніка ягоных твораў.

✡

Дзеля таго, што выпадак «адаптаванага» выданьня твораў Бядулі і сьвежы, і характэрны, падаем тут гэты красамоўны прыклад сутнасьці ня толькі пісаньня бальшавікамі «гісторыі» беларускае літаратуры, але і «перапісваньня» самое літаратуры бязь ведама (ці зь ведамам) пісьменьнікаў.

Дзяржаўнае выдавецтва БССР выдала нядаўна (І-ы том выйшаў у 1951 г., а том IV-ы — у 1953) «Збор твораў» Зьміцрака Бядулі. Укладчыкам і аўтарам «заўваг» гэтага выданьня быў (нябожчык ужо) ведамы партыйны зашыбайла ў беларускай літаратуры — Міхась Клімковіч.

Акрамя тэндэнцыйнага падбору твораў Бядулі, «рэдакцыйная калегія» брутальна кранула наагул некранальную ў цывілізаваным сьвеце індывідуальную асабістасьць аўтара. Гэтак, у «заўвагах» да чацьвертага тому «Выбраных твораў» Бядулі (гутарка йдзе аб рамане «Язэп Крушынскі») з цынічным нахабствам цэнзура заяўляе чытачу (б. 566):

„Другая кніга раману «Язэп Крушынскі» напісана Зм. Бядулем з уласьцівым яму майстэрствам і ў сэньсе разьвіцьця сюжэту, і ў сэньсе абрысоўкі характараў, і ў сэньсе індывідуалізацыі мовы. Але **многае ў другой кнізе раману ўбірала ў сябе факты й падзеі ў такім выглядзе, як яны адбываліся ў рэчаіснасьці** (падкр. нашыя — С. Я.). Пісьменьнік імкнуўся як мага дакладней выкрыць злачынствы зусім канкрэтных ворагаў. **Адсюль наяўнасьць у кнізе публіцыстычных мясьцін,** якія мелі цікавасьць на той мамэнт, калі адбывалася само выкрыцьцё таго ці іншага нацыяналістычнага «дзеяча», злоўленага «з палічным». **Такая публіцыстыка не магла доўга жыць у мастацкім творы... Рэдакцыйная калегія палічыла неабходным апусьціць некаторыя месцы з падобнай публіцыстыкай, із спасылкамі на творы й дакумэнты, якія на сяньняшні дзень не прадстаўляюць ніякай цікавасьці чытачом і будуць толькі псаваць уражаньне ад мастацкага твору.** Вось чаму мы і другую кнігу раману «Язэп Крушынскі» друкуем зь некаторымі скарачэньнямі...".

Бедны Бядуля: раней сам сябе церабіў, цяпер яго абцерабілі і гэткага рапхнулі ў літаратуру. Тое самае зрабілі і зь іншымі. І ў суме, адаптацыя плюс інтэрпрэтацыя далі «очерк истории белорусской советской литературы».

Бо якраз у тым і бяда, што ў творах беларускіх пісьменьнікаў **«многае ўбірала ў сябе факты й падзеі ў такім выглядзе, як яны адбываліся ў рэчаіснасьці».** Прыпамінаньне гэтае рэчаіснасьці сталася цяпер бальшавіцкім эстэтам «публіцыстыкай і псаваньнем уражаньньня ад мастацкага твору». І вось замаскоўваць ды выкрыўляць гэтую рэчаіснасьць перад беларускім чытачом прыйшоў з Масквы чарговы «очерк».

Падсумоўваючы вышэй сказанае, трэба сьцьвердзіць, што выхад у сьвет «Нарысу гісторыі беларускае літаратуры» — гэта зьявішча адмоўнае з усякага гледзішча і акрамя блытаніны, неразьбярыхі й шкоды нічога іншага ня прынясе тэй справе, якой служыла ці намагалася служыць бальшыня ўведзеных цяпер у савецкую «гісторыю» беларускіх пісьменьнікаў.

**С. Ясень**

# Няма дрэннага бязь лепшага

У карэспандэнцыі «Дзень Гэрояў у Нью Ёрку (гл. «Б-на» № 46-228) Л. Г. пісаў «Бацькаўшчыне»:

«Варта зацеміць таксама, што ўсімі моцна адчувалася гэтым разам адсутнасьць у Нью Ёрку нашай выдатнай опэрнай сьпявачкі сп-ні Барбары Вержбаловіч і ейнай пляменьніцы Галіны».

А мы ў сваю чаргу напішам Л. Г-у ў Нью Ёрк:

Варта зацеміць, што ўсімі моцна адчуваецца прысутнасьць у Мюнхэне нашай выдатнай опэрнай сьпявачкі сп-ні Барбары Вержбаловіч і ейнай пляменьніцы Галіны.

Значыць, нічога ў прыродзе не прападае. Значыць таксама, часамі **няма дрэннага бязь лепшага. Бо ў Нью Ёрку-ж ёсьць каму сьпяваць. А цяпер і ў Мюнхэне ёсьць. А ў пятніцу вось і ў Бонне будзе, а ў сыботу — і ў Кэльне (Беларускі Студэнцкі Ансамбль зь Лювэну пад кіраўніцтвам сп. сп. К. Кісляга й А. Карповіча дасьць канцэрты песьні й танцу ў гэтых местах Нямеччыны)** дзе разам зь лювэнцамі (з гэнымі, што ў Лювэне, і з гэтымі, што ў Мюнхэне) возьмуць удзел у канцэртах і дзьве ньюёрскія распаўсюджвальніцы беларускае песьні.

Пакульшто апошнім іхным выступленьнем, як заўсёды, у прыгожай нацыянальнай вопратцы (і з акардыёнам), былі тры беларускія народныя песьні («Цераз сад-вінаград», «Каля рэчкі, каля броду» і «Ці ўсе лугі пакошаны»), прапяяныя на прыняцьці працаўнікоў радыя «Вызваленьне» Старшынёй Амэрыканскага Камітэту, што адбылося 31-га студзеня ў гатэлі «Рэгіна» ў Мюнхэне.

Дзеля гэтага пацяшаць нашага грамадзтва ў Нью Ёрку з прычыны іхнае «страты» ня будзем. Зробяць гэта самі нашыя сьпявачкі песьнямі па радыё на Бацькаўшчыну, трыманьнем песеннага настрою ў бадзёрай беларускай грамадз.. ў Мюнхэне ды годнай рэпрэзэнтацы.. навонкі.

Фэльетон

# Аб суседавых сьвіньнях, жонках ды грамадзкай працы

Пасьля Расейца й Паляка, зьявіўся да Бога з просьбай і Беларус.

— Ну, а чаго-ж ты, жадаеш ад мяне, Беларусе? — папытаўся Бог.

— Я шмат не хочу, Божа, акажы мне толькі адну ласку: зрабі, каб у майго суседа сьвіньня здохла, — адказаў дзядзька.

**Зь беларускае народнае творчасьці.**

На самым пачатку, каб супакоіць нашых Паважаных Чытачоў, мы хочам адразу-ж зазначыць, што мэтай гэтых радкоў не зьяўляюцца нейкія напады на якуюсь азначаную асобу, на якогась спадара «Ікс», ці спадарыню «Ігрык». Зусім не, ды й патрэбы няма да гэтага. Чаму? Бо ясна, каго з нас паасобку не вазьмі, дык гэта-ж, як Беларус — змагар, патрыёт, дзеяч; прыватная адзінка — анел, хадзячая сьвятасьць.

Дык запэўніваем яшчэ раз, што нікога крыўдзіць ня зьбіраемся, а калі-ж хто выпадкова ў гэтых словах адчуе люстэрка, у якім пабачыць сам сябе, дык гэта ня наша віна. Сяньня-ж мы хочам зьвярнуць увагу на зьявішчы вельмі старыя ды, нажаль, адначасова, гэтак актуальныя.

Чамусьці мы ўжо так прывыклі думаць, што там, дзе нашая грамадзкая праца ня робіцца, ці там, дзе яна робіцца, але не прапарцыянальна да нашага патэнцыялу, мусіць быць знаная грамадзкая хвароба — матарыялізм. Г. зв. «пагоня за далярам» (ці іншымі грашыма) прынялася ў нас, як унівэрсальная прычына, што прыводзіць да ўсіх магчымых недахопаў і недацягненьняў на грамадзкай лініі. Аналізаваць жыцьцё данае групы ці шукаць іншае прычыны ўжо навет у галаву ня прыходзіць. А тымчасам, ці яно запраўды гэтак?

Зразумела, цяжка пярэчыць цьверджаньню, што матарыяльны дабрабыт якраз і ёсьць той прынадай, што прыцягвае да «распакоўваньня», перш фізычнага, а затым і духовага. Паміма гэтага, трэба аднак прызнаць, што ёсьць яшчэ ў нас шмат іншых адмоўных бакоў, якія ў вялікай ступені абніжаюць нашую патэнцыяльную вагу ды становяцца тымі перашкодамі, што тармозяць наш рух да вызначанай мэты.

Не ўдаючыся ў глыбокую аналізу, мы пастараемся паказаць на тыя адмоўныя зьявішчы ў нашым жыцьці, якія амаль на кажным кроку кідаюцца самі ў вочы, калі, зразумела, не адварачваць ад гэтага сьвядома галавы ў бок.

Пачнем з амбіцыі. Сама сабой яна не зьяўляецца дрэннай рысай характару чалавека, а калі яшчэ ёсьць побач іншыя дадатнія рысы, дык наадварот, яна зьяўляецца **магутным рухавіком**, што пхае адзінку да мэты. Але няшчасьце, калі ёсьць **толькі** амбіцыя. А як-жа часта гэтае апошняе мы бачым сярод нас. Як часта мы пхаемся няведама куды толькі таму, што побач амбіцыі нічога больш няма. «Як гэта, — думае гэтакі, — той можа быць старшынём, лідэрам, дзеячом, а я не?» Мо хто скажа, што й правільна, кажны зможа, аднак на нашую думку, усё-ж ленінская кухарка й надалей кіруе кухняй. Калі-б гэта быў шляхотны парыў з думкай зрабіць нешта лепшае, чым папярэднік, дык справа нармальная. Але, нажаль, такім кандыдатам на правадыра кіруе толькі адно: чаму гэта ён, а ня я?

І вось уявім сабе, што нашаму «кандыдату» так і не ўдалося выбіцца ў дзеячы. Другая стадыя працэсу — апазыцыя ці камплетная пасыўнасьць. «Ага, ты дзеяч, — далейшая думка насычаная зьядлівасьцяй — вось пабачым, што ты безь мяне зробіш». Ды мала таго, што безь «мяне», але-ж трэба яшчэ й іншых наставіць на шлях пасыўнасьці, каб запраўды даказаць, што безь «мяне» ані кроку.

І ня зьвіцца думка, што беларуская справа ад гэтага церпіць, бо што-ж такое справа, у параўнаньні з асалодай, якую дастаўляе няўдача «праціўніка». Здыхай, суседава сьвіньня!

Але ня будзем крыўдзіць «кандыдата». Дазволім і яму на хвіліну выбіцца на грамадзкую вяршыню. І што-ж? Магчыма, што пры добрай волі ды пры актыўнай падтрымцы з боку іншых, што-небудзь і выйшла-б, каб ізноў **ня... тыя** сьвіньні (суседавы). У выніку — зачараванае кола. А яшчэ далей — ужо адсутнасьць і кандыдатаў на кіраўнікоў, там дзе справа запраўды паважная, ды надлічбовасьць іх, дзе ведама, што ўсё адно нічога паважнага зрабіць няма магчымасьці, а значыць няма й адказнасьці.

Між іншым, тыя самыя вынікі прыносіць ды ў тых самых формах праяўляецца й зайздрасьць на грамадзкай ніве, але аб гэтым крыху пазьней. Цяпер трэ было-б зьвярнуць увагу на нязгоду між дзеячамі. **Аднак хочам зацеміць,** што мы ня маем тут наўвеце нязгоды між БНР-аўцамі і г. зв. «зарубежнікамі». Гэтая нязгода не ўваходзіць у абсяг гэтых радкоў.

У жыцьці прыватным можна пасварыцца з найлепшым сябрам, можна арганічна не цярпець кагось, навет ня маючы на гэта спэцыяльных прычынаў. Але пераношаньне асабістых антыпатыяў на грамадзкі грунт, ад якіх раскладаюцца пасьля цэлыя арганізацыі, руйнуюцца грамадзкія здабыткі, потам і працай сяброў асягнутыя, — гэта недаравальнае праступства. Зьявішча-ж гэта сярод нашай эміграцыі штодзённае. Ды паспрабуйце пасьля даказаць такім дзеячом, што яны няправільна робяць. Дзе-ж там, гэта не асабістыя іхныя непаладкі, — даказваюць яны, — гэта ідэялёгічнае разыходжаньне, гэта справа прынцыпаў і г. д. І тут, ...не даходзіць да галоў, што агульная справа церпіць. І так... ізноў тыя-ж сьвіньні (суседавы).

А да гэтага яшчэ жонкі дзеячоў. Тут трэба зрабіць маленькае адхіленьне ад тэмы, каб выясьніць, што аўтар у ніякім выпадку не зьяўляецца антыфэміністым; наадварот — зьяўляецца глыбока здэцыдаваным прыхільнікам жанчын да самых апошніх межаў, г. зн., да тых межаў, паза якімі і жанчына пачынае скоса глядзець на суседаву сьвіньню. А што часта гэтыя межы ў дзеячовых жонак куды вузейшыя, чымся ў самых дзеячоў, гэта ўжо віна жаночае натуры.

Вось-жа аглянуўшыся на дзесяцігадовае існаваньне нашай апошняй эміграцыі, можна сьцьвердзіць із стопрацэнтовай пэўнасьцяй, што з мамэнтам, як жонкі двух дзеячоў пасварыліся, у самых дзеячоў адразу-ж паўстаюць «ідэялёгічныя разыходжаньні на грамадзка-палітычным груньце». А што-ж больш лягчэйшае, як пасварыцца жонкам двух, скажам, дзеячоў?

І вось калі ўжо гаворыцца аб жанчынах, пара была-б успомніць і аб зайздрасьці, якую мы пакінулі на пазьней. «Ага, — кажа такая, — нябось, вось той ужо старшыня, вось той ужо тое й тое, а ты ўсё яшчэ паперкі пішаш з сваім сакратарствам...» Або: «нябось, вунь яны й дом сабе новы справілі, а ты ўсё яшчэ возішся з сваёй грамадзкай дзіцячай гульнёй». Ці: «тая хоць і за дзеяча выйшла, а мужыка мае, а цябе дык вечна дома няма за тваімі грамадзкімі пабягушкамі...» і г. д., і г. д. Такая прапаганда падобная да бальшавіцкай: калі не бярэ сілай аргумэнтаў, дык затое перамагае сваім сталым бесьперапынным, штодзённым паўтараньнем.

А вынікі — вядомыя.

Дык, ці толькі даляры павінны адказваць за нашыя недахопы?

Калі-б той беларускі дзядзька йзноў трапіў з просьбай да Бога, дык, хто ведае, ці гэтым разам не паказаў-бы ў бок... сьвіньней з нашага панадворку.

**А. Галубіцкі**

## НА ФОНД БЕЛАРУСКАЕ КНІЖКІ

(Працяг)

**38. Падпісны ліст № 15, зьбіральнік сп. Л. Хвалько:** Л. Хвалько — 1 анг.. скі фунт, Ул. Мшар — 1, А. Букат.. 5 шылінгаў. **Разам — 2 фунты 5 шылінгаў.**

**39. Падпісны ліст № 15 б, зьбіральнік сп. Я. Міхалюк:** Я. Міхалюк — 1 анг. фунт. **Разам — 1 фунт.**

**40. Падпісны ліст № 15 в, зьбіральнік сп. А. Лашук:** А. Лашук — 10 анг. шылінгаў, Г. Лось — 6 шылінгаў. **Разам — 16 шылінгаў.**

**41. Падпісны ліст № 15 а, зьбіральнік сп. Х. Кажаневіч:** М. Віцэнчык — 5 анг. шылінгаў, М. Дурэйка — 2 ш. 6 пэнсаў, Х. Кажаневіч — 5 ш., У. Гінько — 2 ш., П. Шыркоўскі — 5 ш., А. Нерад — 5 ш., М. Яськевіч — 2 ш. 6 п., К. Шыбіцкі — 3 ш., Я. Абабурка — 3 ш., Б. Кляйноў — 5 ш., І. Плоціца — 3 ш. **Разам — 2 фунты 1 шылінг.**

**Усім паважаным Грамадзянам, што далі складкі, як і паважаным Зьбіральнікам выказваем шчырую падзяку.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**